Адна зямля

Мядзел
Астравец
Смаргонь
Вілейка
Ашмяны
Маладзечна
...жын
Мінск


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

15 жніўня 2014 года №33 (1007)




## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Вецер сарваў амаль 900 лістоў шыферу

**СМАРГОНЬ.** 13 жніўня ад навальніцы пацярпелі вёскі Шутавічы, Зарудзічы, Міхнавічы, паведамілі ў МНС. У вёсцы Шутавічы на зернесушыльным комплексе "Шутавічы-Агра" вецер сарваў 20 лістоў шыферу. На малочнатаварнай ферме ў вёсцы Зарудзічы – 70 лістоў. На малочнатаварным камбінаце ў Міхнавічах на чатырох пабудовах вецер сарваў 800 лістоў шыферу.

### У Мядзельскім раёне новы пракурор

**МЯДЗЕЛ.** Ад 4 жніўня **Іван Малафей** стаў пракурорам Мядзельскага раёна. Нарадзіўся на Мядзельшчыне. Працаваў следчым, кансультантам суда Мядзельскага раёна, следчым пракуратуры ў Валожыне, следчым пракуратуры Мінскай вобласці па Мядзельскім раёне, намеснікам пракурора ў Мядзельскім раёне. Былы пракурор **Анатоль Івашкевіч** пайшоў у адстаўку.

### Паляўнічыя могуць зарабіць на АЧС

**БЕЛАРУСЬ.** Ад 31 ліпеня кожны жыхар краіны, які мае права на паляванне, можа атрымаць грошы за адстрэл дзіка ў любой паляўнічай гаспадарцы. Адпаведную пастанову прыняў Савет Міністраў. За ўпаляванага дзіка ён атрымае дзве базавыя велічыні, адзначыў галоўны ляснічы Валожынскага лягсаса **Сяргей Бараноўскі**. Лягсас атрымае пяць базавых велічынь кампенсацыі за забітую жывёлу. Упаляваных дзікоў паляўнічым давядзецца здаць, каб жывёлу знішчылі. Тэрмін дзеяння пастановы залежыць ад сітуацыі з АЧС.

### Камунальныя паслугі даражэюць

**БЕЛАРУСЬ.** Ад 1 верасня дзяржава правядзе чарговую індэксацыю тарыфаў з улікам росту сярэдняй зарплаты, паведамляе інтэрнэт-партал tut.by. Як распавёў дырэктар дэпартамента цэнавай палітыкі Міністэрства эканомікі **Ігар Фамін**, камунальныя паслугі падаражэюць на 9,8%. Будуць праіндэксаваныя толькі субсідаваныя тарыфы: на тыя паслугі, па якіх насельніцтва не пакрывае 100% рэальных выдаткаў.

**Аддзел інфармацыі.**



# Свіней у Заброддзі рэкамендуюць калоць



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА

Жыхар вёскі Заброддзе Іосіф Адамовіч гадуе двух кабаноў. Ён, як і большасць аднавяскоўцаў, разгублены: калоць свіней цяпер ці пачакаць. У адным выпадку ён губляе дзясяткі кілаграмаў свініны, у другім можа наогул застацца без скваркі.

**ВІЛЕЙКА. З тым, што свойскіх свіней у Заброддзі Даўгінаўскага сельсавета варта калоць, пагаджаюцца ўсе афіцыйныя асобы, з якімі мы гаварылі на гэту тэму.**

Але пра наяўнасць АЧС мы атрымалі розныя адказы.

У сераду, 13 жніўня, з жыхарамі вёскі Заброддзе правёў сустрэчу старшыня Даўгінаўскага сельвыканкама **Аляксандр Маліноўскі**:

– Для вас не сакрэт, што ферму ў Заброддзі закрылі. З фермы ўзялі ўзоры. Даследаванне пацвердзіла чуму. Таму ферму закрылі недарма – была чума. Калі на ферме быў зафіксаваны факт чумы, два кіламетры вакол яе трапляюць у першую зоны пагрозы. Я не магу наконт гэтага загадваць вам, але я раю не трымаць свіней.

У гэту зону ўвайшлі тры вёскі: Заброддзе, Поня і Кутнае. Старшыня параіў гаспадарам вялікіх свіней пакалоць і скласці мяса ў халадзільнік, а не чакаць, калі па іх прыедуць, каб закапаць. Малых парасят можна вывезці знаёмым.

Каранцін на акругу накладаюць на шэсць месяцаў. Калі за гэты час АЧС не выявіцца, каранцін здымуць і жыхары змогуць трымаць свіней.

Старшыня сельвыканкама падкрэсліў, што АЧС – вельмі сур'ёзная хвароба. Калі раней паляўнічыя плацілі за дазвол, каб забіць дзіка, то цяпер за гэта гатовыя плаціць ім.

Жыхары настойвалі, што іх свінні здаровыя, і прасілі, каб старшыня паказаў ім дакументы, якія пацвярджаюць наяўнасць АЧС на ферме каля Заброддзя. Старшыня параіў па дакументы звяртацца да галоўнага ветэрынарнага доктара раёна.

Аляксандр Маліноўскі бачыў, як жыхароў Заброддзя хвалюе лёс гаспадаркі, і параіў перажыць складаны перыяд.

### "Ачага АЧС на Вілейшчыне няма"

Начальнік Вілейскай ветэрынарнай станцыі **Іосіф Тамковіч** адказаў, што на тэрыторыі Вілейскага раёна ачагоў афрыканскай свіной чумы няма. Але небяспека ўзнікнення хваробы існуе, таму адказныя асобы мусяць прымаць неабходныя меры прафілактыкі.

– Мы раім калоць вялікіх свіней, малых можна гадаваць, – падсумаваў ветэрынарны доктар.

Старшыня Вілейскага райвыканкама **Віктар Кот** пацвердзіў "РГ", што ачагоў АЧС на тэрыторыі раёна няма.

### На свінаферме выразалі свіней

Тры тыдні таму на свінаферме каля Заброддзя, якая належыць філіялу "Бубны" УП "Мінгаз", пачалі выразаць свіней.

Жыхары вёскі хваляюцца, што афрыканская чума дайшла да іх і што хутка знішчаць свойскіх свіней.

– Ферму на 700 галоў закрылі па рашэнні райвыканкама, – падкрэсліў Іосіф Тамковіч. – Яна была нерэнтабельная.

### Чаму закрылі ферму ў Заброддзі

Сітуацыю ўдакладніў намеснік начальніка ўпраўлення ветэрынарыі Мінскага абласнога сельгасхарчавання **Аляксандр Брухан**.

– Было некалькі прычын, каб закрыць свінаферму паблізу Заброддзя. Папершае, яна знаходзілася вельмі блізка да вёскі. А чым больш свіней у пяўнай мясцовасці, тым большая верагоднасць, што захворванне ўзнікне.

Па-другое, яна не мела добрай агароджы, работнікі не праводзілі належную дэзінфекцыю ў памяшканні.

Наогул, ферма была стратная.

**Заканчэнне на 2-й старонцы.**

ТРАНСПАРТ

# Дружыннікам трэба верыць на слова

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні на чыгуначным вакзале многія пасажыры звярнулі ўвагу на дружыннікаў, якія правяраюць білеты яшчэ перад уваходам у цягнікі.**



Фота Аляксандры ПАРАХНІ

Ад пасажыраў дружыннікаў адрознівае толькі чырвоная павязка на руцэ.

"Хто яны і якія ў іх абавязкі?" – з гэтымі пытаннямі звярнуўся ў рэдакцыю чытач "РГ".

– У пятніцу ўвечары я садзіўся ў электрычку на Мінск, – расказаў спадар Анатоль з Вілейкі. – Калі мяне перад цягнікам папрасілі паказаць білет, здзівіўся. Папрасіў правяраючага паказаць пасведчанне, але ён проста назваўся "грамадскім кантралёрам" і патрабаваў білет!

Чытач ніколі раней не чуў пра дружыннікаў, таму хацеў упэўніцца, з кім мае справу. Але кантралёры не мелі ніякіх дакументаў і паказалі толькі чырвоныя павязкі на руцэ.

– З такім жа поспехам я магу начапіць сабе павязку і назваць кантралёрам, – кажа спадар Анатоль. – Адкуль я ведаю, можа яны рабаўнікі? Хочацца ведаць, хто правярае мой білет.

### Дапамагаюць лавіць зайцоў

Па тлумачэнні "Рэгіянальная газета" звярнулася да супрацоўнікаў станцыі Маладзечна Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі.

– Цяпер на чыгунцы праходзіць рэйд па Мінскай вобласці, – патлумачылі нам. – Робіцца гэта для таго, каб выявіць як мага больш безбілетных пасажыраў.

Рэйд пачаўся 8 жніўня. Працягнецца да 17, а, магчыма, і да 31 жніўня. Гэта яшчэ дакладна не вырашылі.

Білеты імкнуцца правяраць ва ўсіх цягніках. Правяраючыя заўсёды стаяць на канцавых станцыях, таму зайцы ў цягнік пасажыр можа толькі тады, калі пакажа білет.

– Праверку праводзяць супрацоўнікі чыгункі, якія ўваходзяць у добраахвотную дружыну, – расказала кантралёр-рэвізор станцыі Маладзечна. – Сярод іх могуць быць і мантажнікі, і электрыкі. Яны праходзяць спецыяльны інструктаж, дзе ім тлумачаць, якія ёсць віды білетаў і на што трэба звяртаць увагу. Так, у іх няма пасведчанняў або бэйджаў. Пазнаць правяраючых можна па чырвонай павязцы на руцэ.

Як патлумачылі "РГ", рабіць пасведчанні на кароткі тэрмін рэйдаў няма пільнай неабходнасці. Але правяраючыя павінны патлумачыць пасажырам, хто яны і навошта стаяць каля цягнікоў.

**Грамадскім кантралёрам давядзецца верыць на слова і звяртаць увагу на чырвоную павязку на руцэ.**

Як паведамляла старшы інспектар службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце (МАУСТ) **Таццяна Субач** у №26 "РГ", на тэрыторыі абслугоўвання МАУСТ працуюць пяць добраахвотных дружын.

У іх удзельнічаюць спецыяльна падрыхтаваныя работнікі прадпрыемстваў і арганізацый Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі.

У іх функцыі ўваходзіць не толькі правяраць білеты, але і сачыць за парадкам на тэрыторыі чыгункі.

**Аляксандра ПАРАХНЯ, Галіна СІНІЦА.**

АФІЦЫЙНА

## Фёдар Дамаценка ўзначаліў МТЗ, а Мечыслаў Гой – гродзенскі гарвыканкам

**МАЛАДЗЕЧНА. СМАРГОНЬ. Аляксандр Лукашэнка даў дабро на прызначэнне Фёдара Дамаценкі генеральным дырэктарам Мінскага трактарнага завода.**

Пра гэта паведамляе прэс-служба Аляксандра Лукашэнкі.

Ад 4 верасня 2010 года па сакавік 2012 года Фёдар Дамаценка ўзначальваў вертыкаль Маладзечанскага раёна.

Апошні час працаваў памочнікам Прэзідэнта – галоўным інспектарам па Мінску.

Нарадзіўся 7 кастрычніка 1957 года ў Новаўзенскім раёне Саратаўскай вобласці (Расія). Жанаты. Мае дваіх дзяцей – сына і дачку.

У 1983 годзе закончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут.

Распараджэннем старшыні Мінскага абласнога выканаўчага камітэта ад 3 верасня 2010 года назначаны старшынёй Маладзечанскага райвыканкама. Зацверджаны на пасадзе 4 верасня 2010 года на пазачарговай сесіі маладзечанскага раённага Савета дэпутатаў.

Да гэтага прызначэння працаваў першым намеснікам генеральнага дырэктара вытворчага аб'яднання "БелАЗ" (Жодзіна).

Фёдар Дамаценка змяніў на пасадзе гендырэктара МТЗ **Уладзіміра Ваўчка**, які прапрацаваў рулявым трактарнага завода крыху больш за паўтара года.

У апошнія час Мінскі трактарны завод сутыкнуўся са складанасцямі збыту сваёй тэхнікі, паведамляе партал TUT.by.

Прэзідэнт таксама даў згоду на назначэнне **Мечыслава Гоя** старшынёй Гродзенскага гарвыканкама. Ён дагэтуль дзесяць гадоў кіраваў Смаргонскім райвыканкамам.

**Аддзел інфармацыі.**



ГАСПАДАРКА

## Свіней у Забароддзі рэкамендуюць калоць

*Заканчэнне. Пачатак на 1-й старонцы.*

Таму, каб пазбегнуць свіной чумы, ферму закрылі, а свіней здалі на мясакамбінаты ў Мінскай вобласці. Праз некаторы час, калі правядуць дэзінфекцыю, на ферме будуць гадаваць цялят. Яны дадуць больш прыбытак для гэтай гаспадаркі. Свае працоўныя месцы людзі захаваюць.

### Чума можа ўспыхнуць

Як растлумачыў Аляксандр Брухан, паводле пастановы Савета Міністраў №758 ад 29 жніўня 2013 года, ветэрынарныя службы пры правядзенні маніторынгу могуць праводзіць абход насельніцтва па дварах. Гэта мера дапамагае не дапусціць распаўсюджвання афрыканскай чумы свіней і іншых небяспечных захворванняў. Такі абход у вёсцы Забароддзе рабілі 7 жніўня.

– Верагоднасць таго, што на Вілейшчыне можа з'явіцца афрыканская чума, існуе, – падсумоўвае Аляксандр Брухан. – Таму што яна ўжо ўспыхвала ў нашых суседзяў: Латвіі, Літве, Расіі. Мы прымаем меры, каб захворванне не распаўсюджвалася.

**Галіна СІНІЦА, Зоя ХРУЦКАЯ.**

### Пры падазрэнні на АЧС:

Трэба звярнуць увагу на наступныя прыкметы: высокая тэмпература (да 42), пачашчанае дыханне, пачырваненне скуры, часцей за ўсё вушэй, падгрудзінкі, жывата і канечнасцей. Можа быць панос з крывёй, кашаль, крывяністы выдзяленні з носа і іншыя сімптомы.

Калі хвароба развіваецца імкліва, жывёла можа загінуць і без праяўлення сімптомаў.

**Што дапаможа пазбегнуць хваробы:**

– неабходна мець спецыяльнае адзенне і абутак для догляду за жывёламі;

– на ўваходзе ў хлеў пакласці дыванок, апрацаваны спецыяльным дэзінфекцыйным сродкам;

– трымаць свіней у закрытых памяшканнях;

– тэрмічна апрацоўваць корм для свіней (кіпяціць);

– выкарыстоўваць канцэнтраваныя кармы, не набываць іх з рук;

– забараняецца выкарыстоўваць прадукты, якія ўтрымліваюць мясныя кампаненты ці атрыманыя пасля апрацоўкі мяса (пасля мыйкі мяса, мясарубкі);

– пазбаўляцца ад грызуноў;

– пасля таго, як наведалі лес, прадэзінфікаваць абутак і адзенне, не заходзіць у ім у хлеў;

– не пускаць на тэрыторыю сваёй гаспадаркі пабочных людзей;

– неадкладна паведамляць аб выпадках захворвання жывёл у ветэрынарныя службы;

– пры знаходжанні трупаў дзікоў паведаміць у мясцовы выканкам і ветэрынарныя службы.

**Парады складзены паводле памяткі Вілейскай ветэрынарнай станцыі.**

● ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

# Бальніцу №2 адчыняць 1 верасня

**МАЛАДЗЕЧНА. У адрамантаванай бальніцы з'явіліся ліфты, платныя палаты і новае абсталяванне.**

Рамонт бальніцы пачалі тры гады таму. У межах праекта асвоілі 45 мільярдаў рублёў са сродкаў раённага бюджэту.

Заказчык праекта – Упраўленне капітальнага будаўніцтва Маладзечанскага райвыканкама. Генеральны падрадчык – перасоўная механізаваная калона №212.

Адначасова на будоўлі працавала да ста чалавек.

**Працу пачалі ў 2011 годзе, спачатку без адсялення пацыентаў. У адной палове будынка працавалі, другую рамантавалі. У кастрычніку 2012 года бальніцу цалкам закрылі на рамонт. Асноўны рамонт цягнуўся амаль два гады.**




**Злева – доктар кабінета камп'ютарнай тамаграфіі Яўген Каркоцкі. Справа – старшая медыцынская сястра Вольга Кемен.**

## Вырашылі праблему №1

Праект уключаў не толькі рамонт, але і рэканструкцыю. Асноўнае змяненне бальніцы ў тым, што прыбудавалі некалькі ліфтаў. Раней іх не было наогул, што стала праблемай нумар адзін.

– У бальніцы чатыры паверхі, уявіце, як медыкі перамяшчалі хворых на насілках, – тлумачыць загадчыца бальніцы №2 **Людміла Джурава**. – Ліфт для перавозкі хворых сур'ёзна аблегчыць працу медперсаналу. Да таго ж, зрабілі зручны пад'езд да прыёмнага пакоя. Усё гэта вельмі важна для бальніцы.

Яшчэ адзін ліфт прыстасаваны для таго, каб завозіць ежу ў аддзяленні.

## Новае абсталяванне палепшыць дыягностыку

Аддзелачныя работы завершаныя, цяпер работнікі расстаўляюць мэблю, прыбіраюць. Некаторыя дробязі яшчэ дапрацоўваюць: на кабінетах хутка з'явяцца шыльды, завязуць частку медыцынскага абсталявання.

– Новае абсталяванне палепшыць якасць дыягностыкі, і для пацыентаў абследаванні стануць больш камфортнымі, – распавядае загадчыца бальніцы. – З рэспубліканскага бюджэту з дапамогай Міністэрства аховы здароўя будзем закупляць рэнтгенапарат на тры працоўныя месяцы. Спадзяёмся, што апошніх мадыфікацый. Абнаўляем лабараторнае абсталяванне. Новыя вучэбныя пакоі будуць зручнымі для навучэнцаў медкаледжа.

## У бальніцы тры аддзяленні

Бальніцу №2 і будавалі, і адчынялі ў 1972 годзе як раённую. Але ў 2005 годзе, калі ў Маладзечне аб'ядналі гарадскія і раённыя ўлады, аб'ядналі і ахову здароўя.

– Некаторыя і цяпер прывязджаюць у бальніцу №2 як у раённую, – гаворыць Людміла Джурава. – Але бальніцы ў Маладзечне падзеленыя па іншым прынцыпе: па аддзяленнях.

Усе аддзяленні адрамантаванай бальніцы тэрапеўтычнага профілю. Іх тры: пульманалагічнае, неўралагічнае і гастралагічнае. Неўралагічных аддзяленняў у Маладзечне стане два: адно на базе бальніцы №2, другое – ЦРБ, прызначанае для хворых на парушэнні мазгавога кровавароту, ці інсультных пацыентаў.

## Колькасць ложкаў зменшылі

Цяпер на тры аддзяленні – 140 ложкаў. Да рамонту бальніца мела 200 месцаў.

– Час унёс свае карэктывы, – тлумачыць загадчыца бальніцы, – павялічваецца інтэнсіўнасць лячэння, змяншаецца яго тэрмін. Таму і абарот пацыентаў павялічваецца.

Штат большым не стане, але прыйдуць новыя работнікі, у тым ліку сёлетнія выпускнікі медыцынскіх устаноў.

Рамонт значна палепшыць умовы і для пацыентаў. Паводле апошніх патрабаванняў санітарных правілаў і нормаў, у палатах не павінна быць больш за чатыры пацыенты.

Палаты ў аддзяленнях будуць на чатыры ці на два месцы. Шэсць палат, па дзве ў кожным аддзяленні, павышанай камфортнасці. Яны разлічаныя для ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, для іншых пацыентаў яны платныя. Кошт размяшчэння ў іх пакуль не разлічвалі.

У палатах – ложкі, матрацы, табурэты, умывальнік і люстэрка, над кожным ложкам – лямпа, званок для выкліку медсястры, дзве разеткі. У платных палатах ёсць асобны пакой з душавой кабінай і ўнітазам, у пакой дадаюць халадзільнік і шафу.

## Кабінет КТ працаваў падчас рамонту

На базе бальніцы працуе кабінет камп'ютарнай тамаграфіі. КТ – адзін з найсучасных метадаў абследавання. Кабінет абслугоўвае не толькі Маладзечаншчыну, але і Вілейшчыну, Мядзельшчыну, Валожыншчыну. Ён не спыняў працу на працягу ўсяго рамонту. Перапынак зрабілі толькі на месяц, каб асвяжыць сам кабінет. Апарат КТ у ім не патрабаваў замены.

Падчас рамонту аддзяленні працавалі ў ЦРБ.

– Адмоў у шпіталізацыі не было. Безумоўна, умовы і для пацыентаў, і для дактароў былі не самыя спрыяльныя, але гэта лепш, чым спыняць працу наогул. Пацыенты выдатна разумеюць, што трэба крыху пацярпець, каб атрымаць штосьці лепшае. Вядома, што адкрыцця чакаюць усе. Умовы тут будуць добрыя і для медыкаў, і для пацыентаў.

Першымі пацыентамі стануць тыя, хто на час адкрыцця будзе лячыцца ў ЦРБ у гэтых аддзяленнях.

## Медыкі рады, што рамонт закончылі

Медыцынскія работнікі радуюцца і таму, што бальніцу адрамантавалі, і таму, што рамонт заканчваецца.

– Вядома, цяпер больш прыемна на работу прыходзіць, – гаворыць старшая медыцынская сястра **Вольга Кемен**. – Што мы бачым цяпер, ёсць з чым параўнаць.

Доктар кабінета камп'ютарнай тамаграфіі **Яўген Каркоцкі** атрымлівае асалоду ад цішыні, якая пануе ў бальніцы пасля асноўных рамонтных работ.

– Не проста працаваць, калі за сцяной адбойнік грыміць. Калі вы памятаеце, як бальніца выглядала раней, стане зразумела, што рамонт быў неабходны.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

| Курсы валют НБ РБ | 7.08 руб. | 14.08 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 10 340,00 | **10 370,00** |
| Еўра | 13 820,00 | **13 840,00** |
| Злоты | 3 294,31 | **3 299,50** |
| Літ | 4 002,01 | **4 010,60** |
| Расійскі рубель | 286,50 | **286,50** |
| Грыўня | 833,87 | **800,77** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13790/13860 | **13810/13900** |
| Долар ЗША | 10310/10360 | **10340/10390** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 6.08 | 13.08 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 139600 | **144900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 60150 | **51900** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 28800 | **30500** |
| **Ялавічына** (выразка), 1 кг | 110000 | **110000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 28900 | **28500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 35800 | **24900** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 98700 | **103800** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 12500 | **14200** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| **Алей "Масловія"** | 13000 | **10800** |
| **Маянэз**, 200 г | 5500 | **5650** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 9800 | **9800** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9500 | **8300** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 6050 | **7000** |
| **Капуста**, 1 кг | 4000 | **5000** |
| **Морква**, 1 кг | 7000 | **7000** |
| **Буракі**, 1 кг | 4800 | **5000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20800 | **28000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 17500 | **18000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 22100 | **23000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 7850 | **7850** |
| **Агуркі**, 1 кг | 7850 | **10000** |
| **Кавун**, 1 кг | - | **6500** |
| **Дыня**, 1 кг | - | **13500** |
| **Вінаград**, 1 кг | 24500 | **26000** |
| **Бананы**, 1 кг | 12900 | **12000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 10300 | **13000** |
| **Грушы**, 1 кг (Дзюшэс) | 24500 | **33000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| **Масла**, 1 кг | 90000 | **90000** |
| **Тварог**, 1 кг | 50000 | **45000** |
| **Бульба** маладая, 1 кг | 4000 | **4000** |
| **Сала**, 1 кг | 100000 | **100000** |
| **Яйкі**, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |

ЗДАРЭННІ

# Выпаў з трактара ў час руху і загінуў

**ВІЛЕЙКА. Здарэнне адбылося 11 жніўня каля 11 гадзін дня непадалёк ад вёскі Касічы на дарозе Нарач-Касічы-Рускае Сяло.**

Мужчыну, напарніка, у кабіне падвозіў трактарыст, які збіраў прыдарожнае смецце. Кабіна была не абсталяваная для перавозкі людзей.

Напарнік выпаў з кабіны трактара праз заднюю шкло і трапіў пад колы прычэпа. Ад цялесных пашкоджанняў памёр на месцы здарэння.

Мужчыны працавалі ў ДРБУ. 51-гадовы кіроўца і 57-гадовы напарнік – жыхары Вілейкі.

Следства кваліфікавала дзеянні кіроўцы як парушэнне правілаў дарожнага руху, якое прывяло да смерці чалавека.

Прызначаная судова-медыцынская экспертыза.

**По інфармацыі Упраўлення СК па Мінскай вобласці.**


Фота techstory.ru.

57-гадовы мужчына каля вёскі Касічы выпаў з кабіны трактара і загінуў.

## 20-гадовая мінчанка загінула з-за сутыкнення з лесавозам

**ВІЛЕЙКА.** Двое пасажыраў "Хёндая-Сантафэ", якім яна кіравала, засталіся жывымі.

Здарэнне адбылося каля 19 гадзін у пятніцу, 8 жніўня. На аўтадарозе Мінск-Мядзел каля вёскі Сосенка Крывасельскага сельвыканкама сутыкнуліся легкавы аўтамабіль і лесавоз.

Выратавальнікі дапамагалі дэблакаваць кіроўцу і аднаго з пасажыраў "Хёндая". Жанчына-кіроўца загінула на месцы, пасажыра шпіталізавалі. Кіроўца лесавоза не пацярпеў.

Як паведамілі ў дзяжурнай часці Вілейскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях, у "Хёндаі" ехалі мінчане. Акрамя кіроўцы, у машыне былі 22-гадовы малады чалавек і 20-гадовая дзяўчына.

Кіроўца Вілейскага доследнага лягсаса ехаў па рабочай пуцёўцы.

## Кіроўца матацыкла, які быў пазбаўлены правоў, паплаціўся жыццём

**МАЛАДЗЕЧНА.** Аварыя адбылася 7 жніўня а дзявятай гадзіне вечара на перакрыжаванні вуліц Лясная-Заслонава.

38-гадовы матацыкліст не справіўся з кіраваннем спартыўнага матацыкла і сутыкнуўся з грузавіком ЗІЛ. Ён памёр на месцы здарэння. У кіроўцы грузавіка траўмаў няма.

Кіроўцу матацыкла раней пазбавілі правоў. Але гэта не перашкодзіла яму сесці за руль.

Зараз высвятляюцца абставіны аварыі. Аб гэтым расказаў следчы Следчага камітэта **Раман Арцем'еў**.

## Жанчына везла сына і заснула за рулём

**АСТРАВЕЦ.** Днём у пятніцу, 8 жніўня, жанчына-кіроўца трапіла ў аварыю на закругленні дарогі каля вёскі Ёдзі Спондаўскага сельвыканкама.

Спачатку яе "Фольксваген" заехаў на правую абочыну, пасля апынуўся ў кювеце і перакуліўся.

У гэты дзень жанчына прыехала цягніком з Масквы. З Мінска яна ехала на машыне ў бок Міхалішак, хацела забраць сабаку з дачы знаёмых. На заднім сядзенні быў непрышпілены пяцігадовы сын кіроўцы.

І кіроўца, і пасажыр атрымалі траўмы галавы, абаіх шпіталізавалі.

– Расказвалі, што дзіця ўжо бегае па аддзяленні, маці ў свядомасці, – распавёў начальнік Астравецкай ДАІ **Уладзімір Александровіч** у панядзелак. – Безумоўна, жанчыне не варта было садзіцца за руль. Яна была стомленая, плюс спёка, таму і заснула. У такіх выпадках лепш пачакаць наступнага дня.

**Аддзел інфармацыі.**

СЛУЖБЫ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ

## На пажары выратавалі гаспадара кватэры

**МАЛАДЗЕЧНА.** 8 жніўня каля 12 гадзін усчаўся пажар у адной з кватэр на трэцім паверсе жылога дома па вуліцы Маладзёжнай. Гаспадара шпіталізавалі.

Пажар на кухні пашкодзіў мэблю. Па ўсёй кватэры закураныя сцены.

Гаспадар з апёкамі шпіталізаваны ў Маладзечанскую ЦРБ.

Як мяркуецца, прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём. Дакладней, загарэлася ануча, якая ляжала каля газавай пліты.

## Загінуў пенсіянер

**МАЛАДЗЕЧНА.** 10 жніўня а палове першай ночы загарэўся жылы дом у вёсцы Краснае на вуліцы Прывакзальнай.

У доме знайшлі цела 64-гадовага мужчыны.

Агонь знішчыў дах драўлянага дома, абкладзенага цэглай.

Дом гаспадару служыў лецішчам.

Прычына пажару высвятляецца.

**Ксенія ТАРАТУТА, інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага ГРАНС.**

## Хлопец пайшоў купацца і знік

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі райаддзел міліцыі шукае зніклага.**



**Канстанцін Юр'евіч Бандзевіч** нарадзіўся 11 лістапада 1991 года (22 гады). Жыве ў Заслаўі па вуліцы Віленскай.

У ноч з 8 на 9 жніўня малады чалавек быў на вадаёме каля вёскі Васькаўцы на Маладзечаншчыне. Ён пайшоў купацца і знік. Дзе ён цяпер, невядома.

Рост каля 174 сантыметраў, смуглы твар, шэрыя вочы, светла-русыя прамыя валасы.

Быў апрануты ў сінія плаўкі.

Пераканаўча просім, калі вы штосьці ведаеце пра месца знаходжання зніклага, паведаміць у міліцыю па тэлефонах: **(80176) 74-96-83, 77-03-12, 77-16-56 ці 102.**

**Паводле паведамлення аддзела крымінальнага вышуку Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

## Перанеслі тэрміны адкрыцця сезона палявання

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ён пачнецца 23 жніўня.

У сувязі са спёкай у некаторых рэгіёнах аб'явілі чацверты альбо пяты клас пажарнай небяспекі.

Каб папярэдзіць выпадкі пажараў у лясах, Міністэрства лясной гаспадаркі разам з аблвыканкамам перанеслі тэрмін адкрыцця сезона палявання на вадаплаўных і балотных птушак, вальдшнэпа, вехіра, галуба шызага, перапёлку, фазана.

**Кірыл ЧАБАН, намеснік начальніка Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

## Шукаюць машыну "Урал"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Маладзечанскі райаддзел міліцыі шукае аўтамабіль УРАЛ 5757-0000010-01.

Дзяржаўны нумар – В603ВА199, шэрага колеру. Машына належыць ТАА "Мантажбудлізінг". Яе скралі ў ноч з 28 на 29 мая. Стаяла каля пуцепровада аўтадарогі Маладзечна-Мінск.

Калі вы штосьці ведаеце пра месца знаходжання машыны, тэлефануйце па нумарах: **(8029) 554-74-25, (80176) 50-08-54 ці 102.**

Узнагароджанне і канфідэнцыяльнасць гарантуем.

**Маладзечанскі райаддзел міліцыі.**

ПРАКУРАТУРА, СУД

## Уступіў у сілу прысуд "мінёру", які летась пагражаў падарваць 11 школ у Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. Дзмітрыя Новіка абвінавачвалі ў тым, што ў верасні ён па пошце разаслаў у 11 школ горада Маладзечна лісты з патрабаваннем перавесці 10 тысяч долараў на электронны рахунак.**

У адваротным выпадку абяцаў узарваць бомбы ў школах, дзе знаходзіліся дзеці.

Пра гэта паведаміла БелТА старшы памочнік пракурора Мінскай вобласці па прававым забеспячэнні, інфармацыі і грамадскіх сувязях **Ларыса Пархімовіч.**

Злачынца скарыстаўся інтэрнэтам WI-FI і ад імя былога мужа сваёй дзяўчыны зарэгістраваў электронную скрыню і электронны кашалёк.

На паведамленне аб небяспецы выбухаў адрэагавалі міліцыя, выратавальнікі, спецыяльнае падраздзяленне па барацьбе з тэрарызмам, піратэхнічная група.

Са школ эвакуіравалі вучняў і настаўнікаў. Выбуховыя прылады не знайшлі.

Абвінавачанага прызналі вінаватым у заведама лжывым паведамленні пра выбух, што пацягнула прычыненне шкоды ў буйным памеры, і ў несанкцыянаваным доступе да камп'ютарнай інфармацыі.

Суд вынес "мінёру" прыгавор, згодна з якім ён будзе пазбаўлены волі на чатыры гады з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.

Судовая калегія па крымінальных справах Мінскага абласнога суда на падставе закона аб амністыі ў сувязі з 70-годдзем вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў скараціла злачынцу пакаранне на 1 год.

За панесеныя страты ў сувязі з правядзеннем работ па ліквідацыі дадзенай надзвычайнай сітуацыі, мерапрыемстваў па выяўленні і прадухіленні такіх актаў, эвакуацыі людзей на карысць дзяржаўных установаў з абвінавачанага спагнана больш за 30 мільёнаў рублёў, а таксама дзяржпошліну ў даход дзяржавы.

**Аддзел інфармацыі.**

АДУКАЦЫЯ

# Лёша трапіў у клас для адораных дзяцей

## Як вучыцца беларускаму хлопчыку ў Амерыцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Якія прывілеі будзе мець цяпер Лёша перад сваімі аднагодкамі, расказвае яго маці Яўгенія.**



Фота Настассі РОЎДА.

**Беларускія сябры Лёшы (у цэнтры), якіх так не хапае яму ў той далёкай краіне. Справа ад яго – Сашка, самы лепшы сябар, а злева – Арсень. Хлопчыкі трымаюць ката Буську.**

Раней мы знаёмілі чытачоў з маленькім грамадзянінам Беларусі Лёшам, які жыве ў Філадэльфіі (штат Пенсільванія) з чатырох гадоў. Цяпер хлопчыку мінула восем. Бацька, таксама **Аляксей**, у яго беларус. Маці – напалову беларуска, напалову афрыканка.

Год прайшоў з таго часу, як Лёша апошні раз прыязджаў да бабулі на Радзіму. Амерыка Амерыкай, але ў Маладзечне ёсць лепшы сябар – **Сашка**.

Калі хлопчыкі ўбачыліся, кінуліся абдымацца. Як дарослыя пасля доўгай разлукі. І ўсе тры дні, што Лёша правёў у бабулі па бацькавай лініі **Марыі**, ён ад Сашы не адыходзіў. Ці Саша ад яго.

Гутарыць з намі ён не вельмі хацеў – час ішоў на хвіліны. Зразумеўшы, у чым праблемы, мы селі гаварыць і есці дыню разам з Сашкам. Так справа пайшла лягчэй.

### Тэст трэцяга класа адыграе ролю пры паступленні

Цяпер Лёша перайшоў у трэці клас.

– Я, вядома, заўважала, што ў яго добра ідзе навучанне. Тэсты добра піша, аднакі ў яго толькі "А". І на адным з бацькоўскіх сходаў настаўніца паклікала мяне, сказала, што Лёша выдатна вучыцца і яна хоча скіраваць яго ў групу для адораных дзяцей.

Для гэтага Лёшы трэба было напісаць комплексны тэст. Заданні былі на логіку, веды. Здаў яго Лёша на 99 працэнтаў.

Як настаўніца патлумачыла маме, такі ж самы тэст – дзяржаўны ў трэцім класе. Гэта значыць, што Лёша як мінімум на год апярэджвае ў развіцці сваіх аднакласнікаў.

Больш за тое, гэты ж тэст у будучым будзе ўплываць на паступленне ў вышэйшую навучальную ўстанову.

### Лёша будзе і далей вучыцца разам з аднакласнікамі

Хлопчык трапіў у групу адораных, але гэта не значыць, што ён будзе вучыцца ў спецыяльным класе.

Ён пойдзе ў звычайны трэці клас. Але на занятках па пэўных прадметах, напрыклад, на развіццё мыслення, усіх адораных дзяцей будуць збіраць разам. Прыкладна два-тры разы на тыдзень па 20 хвілін.

**У амерыканскіх школах дзеці штогод трапляюць у новы клас. Яны праходзяць працэдуру перафарміравання.**

– Размаўляла з настаўніцай, каб перавесці праз клас, адразу ў чацверты. Аднак цяпер гэтага не практыкуюць, бо лічаць вялікай траўмай для дзяцей. Можна скончыць школу і ў дзявятым класе, але, каб паступіць у вышэйшую навучальную ўстанову, трэба будзе ўсё роўна чакаць тры гады. Інакш не возьмуць. З той жа самай прычыны, – распавядае Яўгенія.

Як заўважыла мама Лёшы, у класе яе сына дзеці пераважна вучацца добра. Аднак на тэст з 28 дзяцей запрасілі толькі дваіх. Бацькі яшчэ аднаго дзіцяці папрасілі таксама даць гэты тэст і ім. Аднак іх дзіця не справілася.

– Як будзе працаваць гэтая сістэма, мяркую, убачу, – кажа Яўгенія. – Па заданнях, якія ён будзе прыносіць, па тэмах, якія будзе разбіраць.

Ад першага класа Лёша час ад часу прыносіць дамоў заданні накшталт напісаць рэферат. Сэнс у тым, каб распрацаваць пэўную тэму, але абавязкова разам з бацькамі.

– Апошняя тэма была пра бацькоў, – прыгадвае маці хлопчыка. – Проста далі каляровую паперу, складзеную ў тры разы. Атрымалася шэсць частак, на кожнай з якой трэба было штосьці напісаць. Напрыклад, на першай старонцы вам трэба расказаць пра маці і тату і фотаздымкі прыклеіць. Вядома, дзеці не могуць усё гэта зрабіць самі.

Як кажа Яўгенія, з Лёшам яна працуе так. Спачатку ён сам робіць, як гэта бачыць. А пасля яна садзіцца побач і дапамагае дапрацаваць, прапануўвае штосьці дадаць.

– Тэма пра матылькоў мне спадабалася, – ажыўляецца Лёша. – Там трэба было напісаць пра першую форму матылька, яйкі, потым вусеня і ўсё такое.

Значыць, у школе дзеці атрымоўваюць асноўную інфармацыю, а дома шукаюць больш падрабязную. Раздрукоўваюць ці малююць карцінкі, шукаюць дадатковыя матэрыялы ў інтэрнэце.

Дарэчы, любімы прадмет у хлопчыка цяпер "Чытанне". Аднак не толькі гэта цягне яго да школы.

– Мне падабаецца гуляць у школе ў баскетбол, – кажа Лёша. – Мы выходзім на стадыён перад школай, там ёсць сетка. Яшчэ ў амерыканскі футбол гуляем. Дзе рукамі трэба кідаць мяч. Нагамі яго біць нельга.

### Заўвагі за паводзіны

Адоранае ці не адоранае, але дзіця ёсць дзіця. І заўвагі ў сшытку Лёша дамоў прыносіў.

Бацькоўскія сходы адбываюцца не часта, таму настаўнікі з бацькамі "перакідваюцца" запіскамі. Калі раптам штосьці здарацца ў школе, то настаўнік піша ў сшытку вінаватага дзіцяці заўвагу. У ёй апісвае, што адбылося, і просіць паразмаўляць пра гэта з сынам ці дачкой.

– Лёшу, напрыклад, рабілі заўвагу з-за паводзін у сталовай і на перапынку. Але ж гэта звычайныя дзіцячыя свавольствы. Тады я з ім размаўляла, тлумачыла, што калі напісалі такую запіску, значыць, трэба весці сябе крыху стрыманей. Што гэта не проста пікнік на вуліцы. Пасля пісала настаўніцы: "Я пагутарыла з сынам і спадзяюся, што ён усё зразумеў. Калі будуць нейкія праблемы, калі ласка, пішыце, каб я магла зноў з ім пагутарыць".

**Лёша вельмі любіць анекдоты. І ўжо не толькі іх запамінае і расказвае, але і прыдумвае сам.**

### Дзяржава аплаціла навучанне ў ВНУ

Яўгенія не ўпершыню чуе пра праграму для адораных вучняў. Дзеці яе знаёмай ужо паспелі ў ёй паўдзельнічаць і нават такім чынам "зарабіць" сабе бясплатнае навучанне.

Дзяўчыне ў выніку дзяржава аплаціла ўсе чатыры гады ў вышэйшай навучальнай установе. Яна была ўдзельніцай праграмы для адораных дзяцей, цудоўна спраўлялася з усімі тэстамі, брала ўдзел у розных конкурсах.

У адваротным выпадку, ёй трэба было б плаціць за навучанне 60 тысяч долараў у год. Вядома, гэта вялікая радасць для іх. Таму што ў Амерыцы ўсё навучанне платнае, акрамя школы. Хаця і апошнія ёсць платныя.

А 240 тысяч долараў у год – гэта, па сутнасці, як дом купіць у Амерыцы.

Так што Лёшы ёсць да чаго імкнуцца. А мы будзем сачыць за яго поспехамі і трымаць кулачкі.



**Настасся РОЎДА**
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo

НАМ ПІШУЦЬ



# "Не аўтобус для людзей, а людзі для аўтобуса"

**ВАЛОЖЫН. Чытач "РГ" Пётр Рубан скардзіцца на нязручны расклад аўтобуса, які ходзіць з Валожына на Вайганы. У аўтапарка ёсць свой погляд на гэту праблему.**

– Аўтобус прыязджае ў Валожын амаль перад самым абедам, – распавядае пра свае нязручнасці спадар Пётр. – Назад жа адпраўляецца ў 13.10. За гэтыя паўгадзіны немагчыма схадзіць ні ў бальніцу, ні на рынак, нікуды. А чакаць наступнага аўтобуса да 17.40 таксама не будзеш. Свая гаспадарка, ёсць скаціна.

Неаднаразова жыхары вёскі Слайкоўшчына дасылалі пісьмовыя звароты старшыні Валожынскага выканаўчага камітэта **Уладзіміру Наумовічу**, дырэктару Валожынскай аўтабазы №14 **Аляксандру Ляўшу**.

**Яны прасілі перанесці час адпраўлення аўтобуса з 13.10 на 15.30 ці 16.00.**

Аднак адказ заўсёды быў адмоўны. Па розных прычынах. Калі перанесці рэйс, будуць незадаволеныя іншыя пасажыры. А рэйсам, які існуе, штодзень ездзіць 20-25 чалавек. Што маршрут працуе 20 гадоў і ён патрэбны.

– Знайшлі чым ганарыцца! – лічыць Пётр Іосіфавіч. – 20 гадоў існуе маршрут, увесь гэты час людзі і пакутуюць. Атрымліваецца, што ў нас не аўтобус для людзей, а людзі для аўтобуса. Шмат каго гэта не задавальняе, я ад усёй вёскі гавару. Проста людзі баяцца пісаць скаргі.

### "Кожны эканоміць свае грошы"

Касір па прыёме выручкі Валожынскага аўтавакзала **Святлана Побаль** адзначыла, што звычайна на аўтобусе ў напрамку Вайганаў людзі ездзяць летам, калі пачынаецца дачны сезон, ці ў чацвер, калі ў горадзе базарны дзень.

– Ёсць ільготы – людзі ездзяць. А першага кастрычніка яны знікнуць – людзей увогуле не будзе. Кожны эканоміць свае грошы. За 5 жніўня аўтобус зрабіў чатыры рэйсы. Выручкі ў вадзіцеля было 582 тысячы, 72 тысячы – у касе. Поўны білет каштуе 27 тысяч 500 рублёў. Таму можаце ў сярэднім падлічыць, колькі людзей ехала ў аўтобусе за дзень. З Вайганаў нікога ўвогуле не было.

### Правядуць апытанне людзей

Як патлумачыў начальнік аддзела перавозак і маркетынгу Валожынскага аўтапарка №14 **Канстанцін Рэут**, маршрут на Вайганы і так стратны. Пусціць дадатковы – дадатковыя грошы. Тым больш невядома, ці будзе ўвогуле хто ездзіць у 16 гадзін.

Каб разабрацца ў гэтай сітуацыі, Канстанцін Рэут прапанаваў апытаць людзей, якія ездзяць маршрутам на 13.10. Ці зручна ім і ці хацелі б яны, каб маршрут перанеслі. Гэтым аўтапарк будзе займацца цягам наступнага тыдня.

У сваю чаргу, ён прапанаваў Пятру Іосіфавічу сабраць подпісы тых, каму нязручны гэты маршрут і неабходны перанос на іншы час альбо дадатковы рэйс.

Тады можна будзе вызначыць найлепшы і найзручнейшы расклад аўтобуса на Вайганы.

**Галіна СІНІЦА, Настасся РОЎДА.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

Удзельнікаў карпаратыўнага фестывалю "Бажынкі-2014" на беразе Сожа частавалі салодкім кавуном. На першым плане — карэспандэнтка "РГ" Наталля Тур. А за ёй — Аляксандра Парахня.

● АДПАЧЫНАК

# Журналістаў закідалі сырымі яйкамі

**Хто і за што ўзяў у рукі такую "зброю", чаму па Гомелі 9 жніўня разгульвалі Angry Jabs, а таксама як праходзіў майстар-клас па вырошчванні маку. Раскрываем падрабязнасці адпачынку акулаў пяра на "БАЖынках-2014".**

Журналісты "Рэгіянальнай газеты" сёлета не засталіся ў баку ад штогадовага карпаратыўнага фестывалю, які ладзіць "Беларуская асацыяцыя журналістаў".

8-9 жніўня мы, **Аляксандра Парахня**, **Наталля Тур** і **Настасся Роўда**, разам з калегамі з іншых перыядычных выданняў Беларусі рушылі на Гомельшчыну.

Адпачынак пачаўся з працы. Каб за два дні мы не развучыліся пісаць, для нас падрыхтавалі адмысловае заданне.

Удзельнікаў разбілі на пяць груп. У кожнай апынулася па чатыры-пяць журналістаў з розных гарадоў. Кожнаму выдалі бэйдж Angry Jabs ("Злыя жабы", па аналогіі з вядомай гульнёй Angry Birds) колеру каманды, каб мы не згубіліся і не прыбіліся да чужых.

Пасля мы выцягнулі паперкі з тэмамі, на якія трэба было напісаць камандны артыкул. Адным дастаўся мясцовы парк, іншым – рынак і бяспечнасць прадуктаў, што там прадаюць. Пашанцавала таму, каму выпала найсмачнейшае – беларуская кухня.

Чатыры гадзіны Angry Jabs мелі на выкананне першага і самага адказнага задання. А ў шэсць гадзін вечара мы ўсе дружна селі ў аўтобус, які павёз нас на бераг Сожа.

### Як вырошчваць мак

Там нас таксама падсцерагалі Angry Jabs. Праўда, яны аказаліся не злымі, а вельмі гасціннымі. Размахвалі плакатам "Сардэчна запрашЧаем" і частавалі салодкім кавуном.

Але кавуном частка культурнай праграмы "для самых галодных" не скончылася. Нас чакала вячэра, а за ёй – другая вячэра – шашлыкі.

Столькі есці дакладна не "на здароўе", таму ў хуткім часе мы пераключыліся на канцэрт гурта "Ягорава гара" і спевы пад гітару ад **Вальжыны Цярэшчанкі**. Крыху паскакалі, паведзілі карагоды, паспявалі.

А пасля самыя актыўныя бралі ўдзел у беларускай гульні "Як вырошчваюць мак". Сабралі дзве каманды, па пяць чалавек у кожную. Адна каманда стала ў рад насупраць другой. Першая спявала: "Чыжык-пыжык, пташка маленькая. Скажы нам, скажы нам, як сеюць мак". А другая каманда адказвала і паказвала: "Вось так-так, вось так-так, так сеюць мак". Пасля яшчэ паказалі, як вырошчваюць, полюць, збіраюць. Карацей, паўнавартасны майстар-клас.

Стомленыя, але шчаслівыя, позняй ноччу мы ўсе пайшлі адпачываць.

### Злавіць сырое яйка

Раніцай чакалі новыя выпрабаванні. Цяпер нас правяралі на спрытнасць, лоўкасць і хуткасць.

Першы конкурс быў вельмі нечаканы. Усіх разбілі па парах "хлопчык-дзяўчынка". Дзяўчатам уручылі па сырым яйку. Задача была такая: кінуць так, каб хлопец злавіў і не разбіў яго. Спробаў было тры. Так што тыя, каго не заляпалі яйкамі, аказаліся сапраўднымі шчаслівўчыкамі.

Пасля надышла чарга сапраўднай каманднай спартакіяды: правесці мяч хакейнай клюшкай вакол калкоў, пранесці мячык на ракетцы для бадмінтона, прабегчыся са скакалкай.

Далей каманды крочылі да вады. Там павінны былі прайсці гонкі на катамаранах. Даплыць да берага насупраць і вярнуцца назад. Хто першы – той і лепшы.

Закончыўшы з конкурсамі, можна было спакойна ў Сожы змыць з сябе тое, што засталося ад сырых яек. Што ўдзельнікі праграмы і зрабілі.

Але на гэтым заданні не скончыліся. Камандам трэба было прыдумаць сабе назву і прадстаўленне. Тут удзельнікі пусцілі ў ход усю сваю фантазію і творчасць.

Каманду "Цмокаў", капітанам якой быў **Глеб Лабадзенка** і ў складзе якой апынулася Наталля Тур, старшыня ГА "БАЖ" **Жанна Літвіна** ў гэтым конкурсе вызначыла найлепшай.

### Хто трапіў у лік лепшых

Прадстаўленне камандаў прайшло, але ўсе працягвалі сядзець. Бо прыйшоў час падводзіць вынікі двух дзён і вызначаць лепшых ва ўсіх конкурсах.

Артыкулы, якія журналісты пісалі ў Гомелі, ацэньвалі **Людміла Атчанашанка, Аляксандр Тамковіч, Аляксандр Коктыш, Сяргей Балай** і **Зміцер Лукашук**.

Лепшым журы прызнала матэрыял каманды, у якой працавалі **Таццяна Смоткіна**, Настасся Роўда, **Руслан Гарбачоў** і **Барыс Гарэцкі**. Каманда займалася тэмай рынку і бяспекі прадуктаў на ім.

Другое месца ўзяла каманда **Ларысы Шчыраковай, Алега Агеева, Антона Сурапіна** і **Ігара Дароніна**. Яны раскрывалі мясцовую гомельскую цікавостку – шакаладныя пельмені.

Трэцяе месца занялі **Галіна Будная, Аляксандр Зянкоў, Валянцін Міхальцоў** і **Генадзь Кеснер**. Журналісты распавялі пра жыццё бабулькі, якая зарабляе тым, што іграе на гітары лямпачкай.

Па традыцыі закрывалі гаасаваннем вызначылі "Містэра БАЖынкі" і "Міс БАЖынкі". Сёлета гэтае званне атрымалі **Анатоль Гатоўчыц** і **Ларыса Шчыракова**. А "Віцэ-містэрам" і "Віцэ-міс" сталі **Яўген Валошын** і **Настасся Роўда**.

Як заўжды, хлопцы выбіралі "Міс", а дзяўчаты – "Містэраў".

Такімі былі "БАЖынкі" сёлета на Гомельшчыне. Дзе і якімі яны будуць налета – пакуль загадка. Але ўражанняў ад гэтай сустрэчы дакладна хопіць на год наперад.

**Удзельнікі фестывалю ад "РГ" дзякуюць арганізатарам і іншым удзельнікам за цудоўна праведзены час.**

**Настасся РОЎДА.**
**Больш фота на сайце**




● ІМПРЭЗЫ

## Фэст "Кераміка Крэва" збірае гасцей ля замка

**СМАРГОНЬ. Пастраляць з лука, пакатацца на возе, убачыць рыцараў змогуць госці свята.**

Сёлетні фэст падзелены на дзве часткі. У першай майстры керамікі будуць ствараць на вачах прысутных свае вырабы. Арганізатары імкнуцца паказаць, як чатыры стыхіі ўзаемадзейнічаюць ва ўмелых руках: вада з зямлёй пры дапамозе паветра і агню ператвараюцца ў шэдэўр.

Госці могуць паспрабаваць самі ствараць свой выраб з гліны. Дапамогуць ім лепшыя майстры па кераміцы краіны, якіх запрасілі на свята.

**Фэст адбудзецца ў суботу, 23 жніўня, у мястэчку Крэва на Смаргоншчыне. Пачатак а 13 гадзіне. Уваход вольны.**

Побач размесціцца кірмаш керамічных і іншых вырабаў.

На фэсце будзе працаваць дзіцячая пляцоўка. Для маленькіх гасцей арганізатары рыхтуюць творчыя майстэрні і актыўныя гульні.

Цягам усяго дня будуць ладзіцца разнастайныя конкурсы: страляннe з лука, перацягванне каната, карагоды.

Госці змогуць паўдзельнічаць ў экскурсіі па мястэчку, якую правядуць, едучы на возе.

На фестывалі будзе працаваць кафэ са стравамі народнай кухні. Цягам дня будуць іграць музыкі і выступаць этнафолкавыя гурты.

### Ляліва – герб Крэва

У другой частцы праграмы распачнецца гістарычнае свята "Пад знакам Лялівы".

– Ляліва – гэта герб Крэва, які яно займела, атрымаўшы магдэбургскае права, – патлумачыла намесніца начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Смаргонскага райвыканкама **Таццяна Ражава**.

Тут госці змогуць адчуць атмасферу сярэднявечча: рыцарскія баі, сярэднявечныя танцы.

### Крэва – былая сталіца княства

Крэва сёння – гэта аграгарадок насельніцтвам каля 650 чалавек. У ім захаваліся рэшткі Крэўскага замка, які звязаны з многімі гістарычнымі падзеямі Вялікага Княства Літоўскага.

Замак быў пабудаваны ў 14 стагоддзі. Крэва – сталіца Крэўскага княства, якое каля 1338 года князь Гедымін перадаў сыну Альгерду. У 1382 годзе ў ім па загадзе Ягайлы задушылі яго дзядзьку Кейстута. У 1385 годзе ў замку выпрацавалі ўмовы Крэўскай уніі, якая аб'яднала ВКЛ і Польскую Карону.

Замак быў канчаткова разбураны падчас Першай сусветнай вайны. Лінія фронту праходзіла якраз праз Крэва больш за тры гады.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

### Праграма фестывалю ў Крэве:

**13:00 – 21:00** кірмаш керамікі

**15:00 20:00** – майстар-класы па ручной лепцы, на ганчарным коле

**15:00 – 20:00** – дзіцячая зона: маляванне, арт-сушка, лепка і іншая творчасць, актыўныя беларускія гульні

**17:00 17:30** – батлейка ў дзіцячай зоне

**15:00 – 20:00** – конкурсы на перацягванне каната, стральба з лука і іншыя хітрыя забаўкі

**15:00 – 20:00** – выступленні гуртоў Міareћа, "Паўночная Сухадроўка", "Гарынь", майстар-класы па танцах ад "СІТА"

**15:30 – 20:00** – катанне на возе з экскурсаводам

**17:00 – 19:00** – магчымасць наведаць Крэўскі музей

**21:00 – 23:00** сярэднявечныя рэканструкцыі

**21:00 – 23:00** – выступленні гуртоў сярэднявечнай музыкі.



Фота Сяргея ПРЫШЧЭПЫ.

Рэканструкцыя Крэўскага замка Сяргея Прышчэпы.

ВЯЛІКАЯ АЙЧЫННАЯ ВАЙНА

# "Баграціён": як адступалі фашысты ў раёне Лебедзева

**МАЛАДЗЕЧНА. За 70 гадоў пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў надрукаваная вялікая колькасць рознага роду матэрыялаў аб падзеях беларускай наступальнай аперацыі "Баграціён".**

Тым не менш і сёння можна знайсці малавядомыя цікавыя эпізоды тых часоў, у тым ліку і лакальнага маштабу.

У час правядзення даследавання па вызваленні Лебедзеўшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў мы карысталіся "Данясеннем начальніка апаратыўнага ўпраўлення штаба 3-га Беларускага фронту генерал-маёра Іголкіна" і тым, што расказалі жывыя сведкі мінулай вайны.

Гэты дакумент і сведчанні землякоў дазволілі па-іншаму паглядзець на падзеі выгнання фашыстаў з нашай зямлі, удакладніць некаторыя моманты вызваленчай аперацыі, рэканструяваць бой наступальных савецкіх войск з фашыстамі на чыгуначным пераездзе "Мароські".

## Адступалі і ваенныя, і цывільныя

У час вызвалення Лебедзева і прылеглых населеных пунктаў, у тым ліку Маладзечна, дзейнічалі войскі 3-га Беларускага фронту. Трэцяга ліпеня 1944 года 32-я і 6-я гвардзейская кавалерыйскія дывізіі, абышоўшы Маладзечна з паўночнага захаду, выйшлі на рубеж Паташы, Зарэчча, Кушэвіца (у дакуменце ёсць недакладнасць у назвах населеных пунктаў).

Сапраўдная назва Паташы – Паташня, вёска мела менш за дзясятак дамоў і размяшчалася на поўнач ад Мароськаў, а сапраўдная назва Кушэвіцы – Бушавіца).

Наступленне савецкіх войск прымусіла фашыстаў узмацніць сваё супраціўленне. Яны імкнуліся затрымаць рух нашых войскаў у напрамку Вільні. Стварыць суцэльны фронт вораг па-ранейшаму не мог.

Гэта давала магчымасць асобным падраздзяленням Чырвонай Арміі рухацца наперад. Найбольш арганізаваным было нямецкае супраціўленне 5-й танкавай дывізіі ў раёне Маладзечна і Лебедзева.

Утрыманне вузлоў дарог Смаргонь і Маладзечна мела для праціўніка вялікае значэнне. Яны забяспечвалі адыход рэшткаў разбітай мінскай групоўкі і чыгуначных эшалонаў з раёна Мінска на кірунак Вільні.

Паводле ўспамінаў мясцовых жыхароў, у гэты час праз Лебедзева ў напрамку Смаргоні рухалася вялікая колькасць поўнасцю загружаных аўтамабіляў і гужавых павозак, а па чыгунцы – чыгуначных саставаў.

Адступалі як ваенныя, так і цывільныя асобы. Варожае адступленне працягвалася некалькі тыдняў. У цэнтры Лебедзева намаганнямі невялікай групы савецкіх дэсантнікаў удалося падарваць і спаліць легкавы аўтамабіль, у якім ехалі нямецкія афіцэры.

## Лебедзева падчас "Баграціёна"

Што ўяўляла сабой Лебедзева ў гэтыя дні? Большасць жыхароў пакінулі мястэчка. Людзі капалі сабе сховішчы ў лясных масівах Быкоўка і Сіняўка і хаваліся ў іх ад бамбёжак, абстрэлаў і пажараў. Лебедзева моцна гарэла. Немцы, адступаючы, пры дапамозе агнямёта, устаноўленага на танкетку, падпальвалі дамы.

Спачатку яны палілі будынкі ў цэнтры, дзе раней жылі яўрэі. Для падпальвання дамоў на значнай адлегласці ад цэнтра фашысты выкарыстоўвалі запальныя кулі і ракетніцы.

У пачатку ліпеня стаяла моцная спёка, саламяныя дахі дамоў гарэлі, як порах. З-за вандалізму быў знішчаны добраўпарадкаваны і прыгожы цэнтр Лебедзева.

## Вайну перажылі шэсць хат у Мароськах

Фашысты занялі Лебедзева ўвечары 25 чэрвеня 1941 года. Тады за некалькі дзён у мястэчку спалілі 154 двары. У час вызвалення таксама згарэла шмат будынкаў. Панеслі вялікія страты і навакольныя вёскі: Асанава, Грудкі, Скаварошчына. У Мароськах засталося усяго шэсць хат, якія не закрануў пажар.

**Антон АПАНАСЕВІЧ, Лебедзева.**
**Заканчэнне будзе.**

Рэканструкцыю ў колеры глядзіце на сайце




Рэканструкцыя Дыяны КОБЗУН.

Вучаніца Лебедзеўскай школы Дыяна Кобзун выканала рэканструкцыю аперацыі "Баграціён" ля Лебедзева.

КАЛЯНДАР

**15 жніўня.** 70 гадоў назад (1944) у Маладзечне ўзнавіла сваю работу друкарня "Перамога".

***

**1910 год.** Памёр Зыгмунд Глогер, польскі этнограф, археолаг, які даследаваў Заходнюю Беларусь.

***

**60 гадоў** назад (1954) памёр Язэп Драздовіч, беларускі мастак, скульптар, этнограф, археолаг, педагог. Адзін з заснавальнікаў беларускага нацыянальнага гістарычнага жывапісу. Пахаваны на могілках паміж вёскамі Ліпляны і Малыя Давыдкі Глыбоцкага раёна.

***

**1068 год.** Адбылося паўстанне кіяўлян супраць князя Ізяслава, у выніку якога Ізяслаў Брачыслававіч Чарадзей быў абраны кіеўскім князем.

***

**16 (28) жніўня.** 140 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Уласава (1874 – 1941), беларускага грамадскага і культурнага дзеяча, выдаўца, публіцыста, мемуарыста. Адзін са стваральнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады. Быў рэдактарам газеты "Наша ніва", заснавальнікам беларускіх часопісаў "Саха" і "Лучынка". З'яўляўся ініцыятарам стварэння беларускага выдавецтва "Наша хата". Ён быў першым прафесійным эканамістам, які пісаў па-беларуску. У 1922 годзе абраны сенатарам у польскі сейм. Па яго ініцыятыве і пад яго апякунствам дзейнічала ў 1922–1929 гадах Радашкавіцкая беларуская гімназія імя Скарыны, якую ён нейкі час узначальваў. Арганізатар і адзін з кіраўнікоў Таварыства беларускай школы. Нарадзіўся ў Вілейцы. Апошнія гады свайго жыцця жыў у фальварку Мігаўка каля Радашкавіч. Пакінуў успаміны пра сустрэчы з Купалам, Коласам, Цёткай, інш. Арыштаваны 16 кастрычніка 1939 года ў Маладзечне. Памёр 11 сакавіка 1941 года.

***

**140 гадоў** назад (1869) памерла Габрыэля Пузына (Пузыня), паэтка, пісьменніца, мемуарыстка. Нарадзілася ў сям'і графа Адама Гюнтэра і Аляксандры з Тызенгаўзаў, малодшая з трох іх дачок. Да шлюбу жыла ў радавым маёнтку ў Дабраўлянах Свянцянскага павета (10 міль ад Вільні, цяпер Смаргонскі раён).

***

**17 жніўня.** 45 гадоў назад (1969) у Мядзельскім раёне на возеры Нарач адкрыўся рэспубліканскі піянерскі лагер "Зубраня", цяпер – нацыянальны дзіцячы аздараўленчы лагер "Зубраня".

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**


Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Спякотныя месцы ў Белградзе прыкрываюць ад сонца каляровымі парасонамі.


Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

У народным строі і з усмешкай сустракаюць турыстаў у Белградскай крэпасці.


Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Спецыяльныя вентылятары, якія распырскваюць ваду, увільгатняюць паветра ў кавярнях.

# Што такое адпачынак па-сербску?

## Журналістка "РГ" знайшла адказы на вуліцах Белграда

**На першы погляд у Беларусі і далёкай Сербіі не можа быць шмат агульнага. У краін зусім розная гісторыя, паміж імі – больш за тысячу кіламетраў.**

Але аб'ядноўвае нас не толькі тое, што сербы, як і беларусы, не маюць мора і гавораць на славянскай мове. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова правесці пару дзён у Сербіі.

### Есці мяса і глядзець футбол – абавязкова!

Першае, што кідаецца ў вочы адразу пасля прыезду, – вельмі высокія мужчыны і прыгожыя жанчыны. Сярэднестатыстычны серб вышэйшы і шырэйшы ў плячах за звычайнага беларуса. Спрабаваць патлумачыць гэта можна праз генетыку альбо праз любоў да спорту.

Сербаў сапраўды можна назваць спартыўнай нацыяй. Мясцовыя футбалісты, тэнісісты і гандбалісты вядомыя на міжнародным узроўні, таму сваю радзіму сербы часта называюць "краінай чэмпіёнаў". На вуліцах сапраўды не так часта сустрэнеш людзей з лішняй вагой.

Зазірнуўшы ў мясцовую кавярню, вам давядзецца глядзець на вялікім плазменным экране не музычныя кліпы, а футбольныя і тэнісныя матчы. Спробы змяніць канал будуць марнымі: у сербаў проста не змесціцца ў галаве тое, што спаборніцтвы можна прамяняць на поп-музыку.

Спрабаваць разгадаць сакрэт целаскладу сербаў можна і праз мясцовую кухню.

Сказаць, што сербы ядуць шмат мяса – гэта нічога не сказаць! Мяса ёсць у складзе кожнага мясцовага фастфуду, прычым падаецца яно не ў выглядзе фаршу, а выключна цэльнымі кавалкамі. Уласны досвед падказвае: дзяўчатам часцяком лепей браць адну порцыю на дзвюх, каб асіліць увесь абед.

**У Беларусі можна сустрэцца са стэрэатыпам, што большасць сербаў – чарнавалосыя са смуглай скурай. Насамрэч яны знешне мала чым адрозніваюцца ад беларусаў, хоць і маюць свае асаблівасці.**

Знешнасць сербскіх дзяўчат сапраўды мае ўсходнія рысы. Славянскі твар і светлыя валасы разам з чорнымі вачыма – тыповая знешнасць для сербкі. Усё ж адбіваецца той факт, што больш за 500 гадоў сербскія землі былі пад панаваннем Асманскай імперыі. Але па колькасці бландзінак Сербія не саступае Беларусі.

Як і беларускі, сербкі любяць прыгожа апранацца і сачыць за сабой. Абуць абцасы для паходу на рынак па яблыкі ці рабіць поўны макіяж, каб забегчы на пошту, – звычайная справа.

### Як сербкі становяцца братамі і сынамі

Беларусам будзе лягчэй арыентавацца ў Сербіі, бо разам з лацінскім алфавітам выкарыстоўваюць і кірылічны, які часта пужае іншых турыстаў.

Сербская мова хавае ў сабе шмат нечаканасцяў. "Право" па-сербску значыць "напрасткі", а паварочваючы направа, яны кажуць "дэесно". Сказаць на дзяўчыну "вредна" – гэта камплімент, паколькі па-сербску гэта азначае "працавітая".

Мова адлюстроўвае таксама шматвяковыя патрыярхальныя традыцыі. Моладзь, вітаючыся паміж сабой, гаворыць "чао, братэ!". Зварот "братэ" ўжываюць і да дзяўчат, і да хлопцаў.

Не вытрымаўшы аднойчы, я пачала пярэчыць: чаму я – брат, чаму не сястра? Адказ быў просты: у нас тут усе браты.

Мясцовыя маці, звяртаючыся да сваіх дачок і імкнучыся паказаць ім сваю любоў і пяшчоту, называюць іх… "сынэ". У размовах на вуліцах Белграда часта даводзілася сутыкацца з такімі "сыночкамі".

### Размаўляйце паўсюль і з усімі – будзьце як мясцовыя!

Сербы падобныя да беларусаў яшчэ і тым, што іх краіна таксама ўваходзіла ў склад камуністычнай дзяржавы. Старэйшыя жыхары з настальгіяй прыгадваюць Югаславію, калі Сербіі не трэба было шукаць балансу паміж Усходам і Захадам, як цяпер.

У той жа час сербская моладзь цвяроза глядзіць на магчымую будучыню краіны ў Еўропе. У 2012 годзе Сербія атрымала статус кандыдата на ўступленне ў ЕС.

– Мы хочам дасягнуць еўрапейскага ўзроўню адукацыі, эканомікі і іншых сфер, не ўступаючы пры гэтым у ЕС, – кажа студэнт **Марко Блашыч**. – Ясна, што з цягам часу мы больш згубім у ЕС, чым атрымаем.

Дарэчы, беларусы могуць наведваць Сербію без візы, калі падарожжа будзе не больш за 30 дзён.

Размаўляць з сербамі лепш на англійскай мове, бо рускую разумеюць далёка не ўсе. Для мясцовых завесці размову з прадавачкай на касе ці афіцыянтам у кавярні – звычайная справа. Прычым іншыя пакупнікі не будуць нервавацца і прасіць хутчэй скончыць размову – яны проста далучацца да яе.

Менавіта таму ў Сербіі проста заводзіць знаёмствы. Запытаўшыся ў прадаўца сувеніраў, як прайсці на пошту, я атрымала гіда па Белградзе на бліжэйшыя паўгадзіны. Мужчына кінуў сваё працоўнае месца і пайшоў праводзіць мяне на пошту, якая знаходзілася за пару кварталаў.

Краіну нельга назваць папулярнай сярод турыстаў, менавіта таму яна захоўвае сваю прастату і сапраўднасць.

– Для мяне вельмі важна, каб у Сербію прыязджала як мага больш гасцей, – кажа студэнтка з Белграда **Аляксандра Перыч**. – Пасля апошніх узброеных канфліктаў на Балканах з'явіўся стэрэатып аб агрэсіўных і ваяўнічых сербах. Хочацца, каб людзі бачылі маю краіну на свае вочы і рабілі высновы самі, а не слухалі байкі іншых.



Фота Леаніда БОЙКУНА.

Любімы ласунак сербскіх хлопчыкаў і дзяўчатак – марожанае і поп-корн.



**Аляксандра ПАРАХНЯ**
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com

# Малы памежны рух? Не, не чулі

## Мясцовыя жыхары не ведаюць пра перавагі, якія ім дасць адмена віз

**Валанцёры кампаніі "У Беларусь і Еўропу без візы" за лета тройчы праехалі па тэрыторыі беларускага памежжа, каб пабачыць, што мясцовыя жыхары ведаюць пра малы памежны рух (МПР) і ці гатовыя нешта рабіць для яго ўвядзення.**

Падчас першай паездкі ў Гродзенскую вобласць, ля самай мяжы з Польшчай і Літвой, валанцёры размаўлялі з жыхарамі вёсак Верцялішкі, Новы Двор і Азёры.

Другая паездка прайшла па маршруце Ваўкавыск–Свіслач–Поразава. У трэцяй вандроўцы валанцёры наведалі мясціны нашага рэгіёна: Залессе на Смаргоншчыне, Гальшаны на Ашмяншчыне, а таксама "беларускую Швейцарыю" – вёску Гервяты на Астравеччыне.

**Амаль чатыры гады таму Беларусь, Польша і Літва падпісалі дамову аб бязвізавым перамяшчэнні жыхароў памежных тэрыторый. Аднак на гэтым працэс спыніўся, дамова так і не пачала дзейнічаць. Ці зацікаўленыя жыхары памежжа ў паскарэнні перамоў?**

### Пра малы памежны рух амаль не ведаюць

Высветлілася, што большая частка мясцовых людзей не ведае, што такое малы памежны рух. Інфармацыя пра дамовы паміж Беларуссю і суседнімі краінамі не даходзіць да жыхароў памежжа.

Але, даведаўшыся пра тое, як можа змяніцца жыццё пасля ратыфікацыі дамовы, людзі ахвотна падпісвалі звароты да мясцовай улады. Іх падпісваюць, каб звярнуць увагу кіраўніцтва памежных рэгіёнаў на тое, што жыхары зацікаўленыя ў старце малога памежнага руху і гатовыя дзейнічаць, каб атрымаць права свабоднага перамяшчэння ў суседнія краіны.

Раздрукаваныя звароты некаторыя забіралі дадому, каб даць падпісаць родным. І гэта не дзіўна, бо ў памежнай зоне шмат людзей жадае паехаць да родных у Польшчу ці Літву.

Мясцовым цікавы малы памежны рух з розных прычын: каб вандраваць, наведаць сваіх родных, пабываць на магілках, дзе пахаваны блізкія. Некаторыя верац, што патрапяць без візы на вяселле дачкі.

### "Калі не будзе віз, то ў Беларусі ніхто не застанецца"

Некаторыя мясцовыя жыхары дзяліліся сваімі асабістымі гісторыямі.

– У мяне ёсць віза, так што ад лютага я магу ездзіць за мяжу, – кажа прадавачка ў краме вёскі Верцялішкі. – Для таго, каб яе атрымаць, патраціла 250 долараў! Але дагэтуль так і не атрымалася выехаць ні разу.

Дарэчы, не ўсе жыхары памежжа падтрымліваюць ідэю малога памежнага руху. Валанцёры у час вандроўкі сутыкнуліся з распаўсюджанымі стэрэатыпамі пра візы.

– Віза ў мяне ёсць пастаянна – на працы робяць, – распавёў мужчына ў Верцялішках. – Але я супраць таго, каб візы адмянілі. Тады ўсе рванууца за мяжу, тут нікога не застанецца! І натоўпы будуць на мяжы.

Аднак ён не мае рацыі, паколькі адмена віз не дасць права жыхару Беларусі жыць і працаваць за мяжой. Ён зможа з'ездзіць у краіны Еўрапейскага Саюза, каб пабачыць родных, наведаць новыя мясціны ці схадзіць у краму. Але для таго, каб працаваць ці эміграваць, давядзецца прайсці іншыя працэдуры.

Да таго ж, пры адмене віз нікуды не знікне пашпартны кантроль на мяжы. Памежнікі гэтаксама будуць сачыць за тым, хто і калі перасякае мяжу, толькі не будуць патрабаваць візы. Значыць, выехаць у суседнія краіны стане лягчэй – не трэба будзе губляць час на паездкі ў пасольствы і траціць грошы за консульскія зборы.

### Валанцёры падводзяць вынікі

Сваімі ўражаннямі ўдзельнікі паездкі падзяліліся пасля размовы з мясцовымі жыхарамі.

– Вельмі прыемна, калі людзі падтрымліваюць ініцыятывы кшталту гэтай, – кажа **Вольга Шылейка**. – Ім не трэба доўга тлумачыць, чаму малы памежны рух – гэта зручна, яны самі ўсё разумеюць.

Валанцёр **Галіна Старажылава** заўважыла, што мясцовых людзей можна было б падзяліць на тры групы.

1. Тыя, каго пытанне ўвогуле не хвалюе. "Мне гэта не цікава, я не езджу за мяжу", – з такім адказам таксама часам даводзілася сутыкацца.

2. Жыхары, якія арыентуюцца ў тэме, самі задаюць пытанні і выказваюць уласныя меркаванні. Яны ахвотна падпісвалі зварот.

3. Тыя, хто станоўча ставіцца да ідэі малога памежнага руху і адмены віз, але баіцца ці не жадае нешта для гэтага рабіць: "А мяне дакладна потым нікуды выклікаць не будуць?". "Баюся пакінуць свой дамашні адрас, невядома, дзе ён пасля ўсплыве".

Але ж дамову аб падрыхтоўцы малога памежнага руху ўжо падпісала кіраўніцтва Беларусі, таму жаданне паскорыць яго рэалізацыю – цалкам зразумелае, у ім няма нічога кампраметуючага. Наадварот, вялікая колькасць зваротаў ад мясцовых жыхароў яшчэ раз пакажа, што беларусы зацікаўленыя ў кантаках з суседзямі.

– Я суб'ектыўна падлічыла, што каля 80% апытаных нічога не чулі пра малы памежны рух, – падсумоўвае Галіна. – Яшчэ 15% нешта чулі, але не памятаюць, што канкрэтна. Тыя 5%, што засталіся, сапраўды ведаюць пра ініцыятыву.

**Настасся ЖУХАРАВА.**




Фота Алены КАХОВІЧ.

**Жыхары Гервятаў ахвотна падпісвалі зварот аб паскарэнні малога памежнага руху. На фота – прадавачка мясцовай крамы разам з валанцёрам кампаніі "Без візы!" Настассяй Жухаравай.**

**Даведка "РГ".** Малы памежны рух дазваляе жыхарам памежнай тэрыторыі наведваць адпаведную тэрыторыю суседняй краіны (30-50 км ад мяжы). Для гэтага не патрэбна віза, а толькі спецыяльнае пасведчанне. Яно каштуе ў тры разы танней, чым шэнгенская віза – 20 еўра.

## Даслаць свой зварот аб паскарэнні малога памежнага руху можа кожны

Калі вы лічыце пытанне МПР важным, каардынатар валанцёраў кампаніі "Без візы!" **Алесь Быстрыкаў** раіць даслаць зварот у Міністэрства замежных спраў Беларусі.

Прыкладны тэкст звароту можа быць наступны:

"Добры дзень! Пішу Вам з просьбай аб паскарэнні рэалізацыі Дамовы аб малым памежным руху з Рэспублікай Літва.

Я глыбока занепакоены(ая) зацягваннем беларускім урадам рэалізацыі Дамовы аб малым прымежным руху з Рэспублікай Літва. Дамова закранае інтарэсы больш за шэсцьсот тысяч беларускіх грамадзян, якія пражываюць на прымежнай беларуска-літоўскай тэрыторыі.

Дамова паміж урадамі Рэспублікі Беларусь і Літоўскай Рэспублікі аб парадку ўзаемных паездак жыхароў памежных тэрыторый Рэспублікі Беларусь і Літоўскай Рэспублікі была падпісаная ў Мінску 20 кастрычніка 2010 года.

10 студзеня 2011 Прэзідэнт Беларусі падпісаў Закон РБ №239-З "Аб ратыфікацыі Дамовы паміж урадам Рэспублікі Беларусь і ўрадам Літоўскай Рэспублікі аб парадку ўзаемных паездак жыхароў памежных тэрыторый Рэспублікі Беларусь і Літоўскай Рэспублікі".

Згодна з афіцыйнымі крыніцамі, 1 сакавіка 2012 Літва афіцыйна паведаміла Беларусі, што гатовая да старту малога памежнага руху. Беларускі ўрад да гэтага часу не прыступіў да рэалізацыі Дамовы аб МПР з Літоўскай Рэспублікай.

Варта зазначыць, што ў выніку адкрыцця МПР з Літвой актывізуецца эканамічная супраца паміж беларускімі і літоўскімі рэгіёнамі, ажывяцца кантакты мясцовых уладаў, стануць цяснейшымі сямейныя сувязі грамадзян абедзвюх дзяржаў. МПР спрыяльна адаб'ецца на павелічэнні даходаў прымежных рэгіёнаў, напаўняльнасці прыбытковай часткі мясцовых бюджэтаў, развіцці турызму, мадэрнізацыі і выкарыстанні беларускай інфраструктуры.

Просім паспрыяць паскарэнню рэалізацыі Дамовы аб малым памежным руху з Літоўскай Рэспублікай, у тым ліку перадачы літоўскаму ўраду ноты аб гатоўнасці беларускага боку да ўвядзення ў дзеянне Дамовы аб МПР".

Не забудзьцеся пазначыць у звароце імя, прозвішча, імя па бацьку, свой дамашні і электронны адрасы, а таксама паставіць свой подпіс.

Дасылаць зварот трэба на адрас: **вул. Леніна, 19, Мінск, 220030, Макею Уладзіміру Уладзіміравічу.**

**ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА**

# ФК “Маладзечна-2013” упэўнена перамог “Колас” – 6:1

**МАЛАДЗЕЧНА. Матч прайшоў на дамашнім стадыёне каманды ў нядзелю, 11 жніўня.**

Ужо ў першым тайме маладзечанцы перахапілі ініцыятыву ў гульні. Лік у матчы адкрыў **Аляксандр Парфёнаў**.

Багатай на галы атрымалася 35-я хвіліна матча: абедзве каманды адзначыліся забітымі мячамі.

У гаспадароў забіў **Юры Янэчкін**, але праз некалькі секунд паспяхова завяршылі сваю атаку футбалісты “Коласа”. Гэты гол так і застаўся адзіным у іх выкананні.

Наступныя галы гледачы пабачылі ўжо ў выкананні **Прохара Новікава** і **Сяргея Тарчылы**. Дублем у матчы адзначыўся **Андрэй Лявончык**.

– У нас атрымалася ўсё, што мы задумалі, большую частку момантаў атрымалася рэалізаваць, – пракаментаваў гульню трэнер маладзечанцаў **Дзмітры Ганчароў**. – Нельга сказаць, што сённяшні добры лік – вынік якасных трэніровак, бо адну трэніроўку на тыдзень складана назваць паўнавартаснай.

Таксама трэнер адзначыў гульню сапернікаў. Але ў адрозненне ад маладзечанцаў, сапернікі не выкарысталі свае галявыя моманты.

– Можа, у мяне на твары гэтага не напісана, але насамрэч я вельмі задаволены вынікам, – дадаў Дзмітры Ганчароў.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**


Фота Настасі РОЎДЫ.

Маладзечанская каманда перамагае другі раз запар.

**Да канца асноўнай часткі чэмпіянату засталося літаральна некалькі матчаў. Наступныя гульні “Маладзечна-2013” пройдуць наступным чынам:**

| Дата правядзення | Дамашні матч | Гульня на выездзе |
|---|---|---|
| 17 жніўня 2014 (нядзеля) | | ФК “Жыткавічы” |
| 24 жніўня 2014 (нядзеля) | ФК “Партызан” | |
| 31 жніўня 2014 (нядзеля) | | ФК “Крумкачы” |
| 6 верасня 2014 (субота) | ФК “Тарпеда” | |
| 13 верасня 2014 (субота) | ФК “Узда” | |
| 20 верасня 2014 (субота) | | ФК “Кобрын” |

# Каляндар матчаў ХК “Дынама-Маладзечна”

**МАЛАДЗЕЧНА. Менш за месяц засталося да старту 23-га адкрытага чэмпіянату Беларусі па хакею з шайбай у экстралізе сезона 2014-2015 года.**

Першы матч хакейная каманда “Дынама-Маладзечна” згуляе 6 верасня ў Гродне. Сапернікам маладзечанцаў будзе дзеючы чэмпіён краіны – ХК “Нёман”. Першы дамашні паядынак супраць жлобінскага “Металурга” запланаваны на 11 верасня.

У сезоне возьмуць удзел 11 камандаў з усёй краіны.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

| Дата правядзення | Дамашні матч | Гульня на выездзе |
|---|---|---|
| 6 верасня 2014 (субота) | | ХК “Нёман” (Гродна) |
| 8 верасня 2014 (панядзелак) | | ХК “Ліда” |
| 11 верасня 2014 (чацвер) | ХК “Металург” (Жлобін) | |
| 13 верасня 2014 (субота) | ХК “Гомель” | |
| 16 верасня 2014 (аўторак) | | ХК “Віцебск” |
| 18 верасня 2014 (чацвер) | | ХК “Хімік”(Наваполацк) |
| 21 верасня 2014 (нядзеля) | ХК “Магілёў” | |
| 23 верасня 2014 (аўторак) | ХК “Шахцёр” (Салігорск) | |
| 28 верасня 2014 (нядзеля) | ХК “Брэст” | |
| 1 кастрычніка 2014 (серада) | ХК “Юнацтва” (Мінск) | |
| 4 кастрычніка 2014 (субота) | | ХК “Металург” (Жлобін) |
| 6 кастрычніка 2014 (панядзелак) | | ХК “Гомель” |
| 9 кастрычніка 2014 (чацвер) | ХК “Віцебск” | |
| 11 кастрычніка 2014 (субота) | ХК “Хімік” (Наваполацк) | |
| 14 кастрычніка 2014 (аўторак) | | ХК “Магілёў” |
| 16 кастрычніка 2014 (чацвер) | | ХК “Шахцёр”(Салігорск) |
| 21 кастрычніка 2014 (аўторак) | | ХК “Брэст” |
| 24 кастрычніка 2014 (пятніца) | ХК “Ліда” | |
| 26 кастрычніка 2014 (нядзеля) | ХК “Нёман” (Гродна) | |
| 28 кастрычніка 2014 (аўторак) | | ХК “Юнацтва”(Мінск) |
| 31 кастрычніка 2014 (пятніца) | ХК “Юнацтва” (Мінск) | |
| 11 лістапада 2014 (аўторак) | ХК “Брэст” | |
| 16 лістапада 2014 (нядзеля) | | ХК “Нёман” (Гродна) |
| 18 лістапада 2014 (аўторак) | | ХК “Ліда” |
| 21 лістапада 2014 (пятніца) | ХК “Гомель” | |
| 23 лістапада 2014 (нядзеля) | ХК “Металург” (Жлобін) | |
| 26 лістапада 2014 (серада) | | ХК “Хімік”(Наваполацк) |
| 28 лістапада 2014 (пятніца) | | ХК “Віцебск” |
| 1 снежня 2014 (панядзелак) | ХК “Шахцёр” (Салігорск) | |
| 3 снежня 2014 (серада) | ХК “Магілёў” | |
| 6 снежня 2014 (субота) | | ХК “Шахцёр” (Салігорск) |
| 8 снежня 2014 (панядзелак) | | ХК “Магілёў” |
| 11 снежня 2014 (чацвер) | ХК “Хімік” (Наваполацк) | |
| 13 снежня 2014 (субота) | ХК “Віцебск” | |
| 23 снежня 2014 (аўторак) | | ХК “Гомель” |
| 25 снежня 2014 (чацвер) | | ХК “Металург” (Жлобін) |
| 28 снежня 2014 (нядзеля) | | ХК “Юнацтва” (Мінск) |
| 4 студзеня 2015 (нядзеля) | ХК “Нёман” (Гродна) | |
| 6 студзеня 2015 (аўторак) | ХК “Ліда” | |
| 11 студзеня 2015 (нядзеля) | | ХК “Брэст” |

**ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ**

## Што падтрымлівае вашу веру ў маладзечанскую каманду?

**Руслан Вяль, студэнт:**



– Я проста веру ў каманду заўсёды, нягледзячы ні на што. Менавіта таму стараюся хадзіць на ўсе дамашнія матчы. Вось нядаўна таксама быў і на выязным у Мінску. Мой прагноз на гэты сезон – першая ліга! Не лічу, што гэта надта амбітна.

**Сяргей Карыцька, трэнер-выкладчык:**



– У мяне няма ніякай веры ў каманду. Мне крыўдна за тое, што ў ёй выступаюць выпускнікі не маладзечанскіх, а мінскіх спартыўных школ. Трэба развіваць мясцовыя школы, бо нашы вучні маглі б гуляць не горш!

**Іна Анціпенка, юрыст:**



– Нават не ведаю, мы проста падтрымліваем нашых. Муж больш разбіраецца ў футболе, але часам мы ходзім усёй сям'ёй, як сёння. Калі падтрымліваеш, то заўсёды ёсць думка – а раптам менавіта сёння пераможуць!

**Аляксандр Борыс, электразваршчык:**



– Я веру ў каманду нягледзячы на тое, якія вынікі яна паказвае. Нават не ведаю, адкуль тая вера бярэцца, але яна ёсць. Апошнім часам футбалісты радуюць сваёй гульнёй. Хочацца, каб каманда сёлета выйшла ў плэй-оф.

**Яўген Краўчанка, юны футбаліст:**



– Я прыходжу на стадыён, каб атрымаць асалоду ад гульні і галоў. Вядома, я веру ў каманду! Думаю, што сезон яна скончыць дзесьці паміж чацвертым і сёмым радком турнірнай табліцы. Сам я таксама гуляю ў футбол і спадзяюся аднойчы выйсці на гэта поле як футбаліст.

**Юры Карлёнак, аператар:**



– Мы верым у каманду і заўсёды наведваем усе матчы, а як жа інакш? Хаджу на мясцовы футбол гадоў пятнаццаць, і разам з жонкай, і разам з дачкой. Верым, што з кожнай гульнёй футбалісты іграюць лепей, бо набіраюцца досведу.

**Анатоль Стэцкі, кіроўца:**



– Ведаю, што нашу каманду крытыкуюць, бо ў ёй іграюць толькі два-тры нашы футбалісты. Але я хаджу на матчы, бо ў самога сын гуляў у футбол 13 гадоў.

**Падрыхтавалі Аляксандра ПАРАХНЯ, Настасся РОЎДА.**

# Камент-эксперт Rh.by

Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420

### ФК “Маладзечна-2013” упэўнена перамог “Колас” – 6:1 (шмат фота)

Дзякуй за аператыўную інфармацыю пра перамогу Маладзечна. Таксама зручна, што ў матэрыяле другім сказам адразу навігатар на фотki: “Фотагалерэя месяцца справа зверху. Націсніце на здымак, каб павялічыць яго”. І толькі адна папраўка. Ну не ЗАКІДВАЮЦЬ мяч у футболе! Даведка для аўтара Аляксандры Парахні: мячы закідваюць у гандболе, баскетболе, водным пола. У футболе іх ЗАБІВАЮЦЬ. Выбачайце, калі што не так… *ВАРАТАР*.

### Кіроўца матацыкла, які быў пазбаўлены правоў, паплаціўся жыццём

Нічога дзіўнага. Кожную ноч лётаюць па Лясных на матацыклах і скутарах. І нешта ДАІ не шукае іх на Лясных. А на скутарах дык і школьнікі гойсаюць. Трэба нешта рабіць, якія-небудзь рэйды ладзіць, ці што. Тым больш, што на Лясных не так ужо і многа дарог, дзе можна палётаць на матацыкле. *Жаль*.

3-за сабакі на пляжы ў Асіпавічах пачалася сварка. Ці "пакусаюць" гаспадара за купанне Рэкса або Шарыка? Сабака – сябра чалавека, і лепшы за чалавека, бо ніколі не нагадзіць у ваду, калі купаецца. *Kuklachov*.

### … у Валожыне пройдзе пікет супраць будаўніцтва жылых дамоў на месцы пахавання яўрэяў

Паважаная ЕВА, заклікамі да сумлення тут не дапаможаш. Той, хто вырашыў тут будаваць, пабудуе. Гэта цягнецца яшчэ з савецкіх часоў. Камуністы не маглі штосьці проста так будаваць, ім спачатку патрэбна было штосьці зруйнаваць. Будаўніцтва светлай будучыні камунізму працягваецца нашчадкамі ленінцаў ды сталінцаў. А, як вядома, камунізм фанаты-камуністы будавалі толькі на зруйнаваных святынях і чалавечых касцях! *Алесь Раткевіч*.



## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | | | | | 4 | | 2 | 5 |
| | | | 1 | | 3 | | 6 | |
| | | 5 | | | | 4 | 3 | |
| | 9 | | | | 7 | 3 | | |
| | | | | 4 | | | | |
| | | 1 | 8 | | | | 4 | |
| | 2 | 8 | | | | 6 | | |
| | 1 | | 9 | | 8 | | | |
| 5 | 6 | | 4 | | | | | 7 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## ● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ СМАРГОНШЧЫНЫ



Фота Настасі РОЎДЫ

**Маленькі маладзечанец Георгі адпачывае на возеры Белае пад Смаргонню. У ваду бяжыць першым. І ўжо хутка навучыцца плаваць.**

## ● РЭПЕРТУАРЫ

### Кінатэатр “Радзіма”, Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Камедыя, фэнтэзі “**Таямніца чатырох прынцэс**”, 3D (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
16 жніўня – у 14:00
17 жніўня – у 14:30
20 жніўня – у 16:30
Кошт білета – 30 000 рублёў

Фантастычны трылер, баявік “**Планета малпаў: Рэвалюцыя**”, 3D (ЗША, 2014, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
19 жніўня – у 18:30
Кошт білета – 50 000 рублёў

Фантастычны баявік, прыгоды “**Вартаўнікі Галактыкі**”, 3D (ЗША, 2014, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
16 жніўня – у 16:00
18 жніўня – у 21:00
15, 20 жніўня – у 18.30
Кошт білета – 55 000 рублёў

Трылер, баявік “**Насустрач шторму**” (ЗША, 2014, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
17 жніўня – у 19:00
16, 20 жніўня – у 21:00
Кошт білета – 45 000 рублёў

Прэм’ера! Фантастычны баявік, прыгоды “**Чарапашкі-ніндзя**”, 3D (ЗША, 2014, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
15 жніўня – у 16:00, 21:00
16, 18 жніўня – у 18:30
17 жніўня – у 16:30, 21:00
19 жніўня – у 21:00
Кошт білета – 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя “**Рыф**” (Паўднёвая Карэя, ЗША, 2013, без узроставых абмежаванняў)
15 жніўня – у 16:30
16, 17 жніўня – у 15:00
19, 20 жніўня – у 16:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Камедыя “**Падарунак з характарам**” (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
15, 16, 17 жніўня – у 19:30
Кошт білета – 35 000 рублёў

Меладрама “**Піцер. Лета. Каханне**” (Расія, Вялікабрытанія, 2013, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
15-20 жніўня – у 21:30
Кошт білета – 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Кінатэатр “Мір”, Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Баявік “**Я – Франкенштэйн**” (Аўстралія, без узроставых абмежаванняў)
15, 16, 17 жніўня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Меладрама “**Анжаліка, маркіза анёлаў**” (Францыя, дазволены для паказу з 16 год)
15, 16, 17 жніўня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Анімацыя “**Олі і скарб піратаў**” (ЗША, без узроставых абмежаванняў)
16, 17 жніўня – у 15:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Баявік “**Пампеі**” (Канада, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
20, 21 жніўня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Трылер “**Тайна перавалу Дзятлава**” (Расія, ЗША, для паказу з 16 год)
20, 21 жніўня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

## ● ГАРАСКОП (15-21 ЖНІЎНЯ)


**Авен.** Вы станеце самай папулярнай асобай. Наогул для вас наступае спрыяльны перыяд. Вы будзеце поўныя энергіі і жыццёвай сілы, каб ажыццявіць задуманае.


**Цялец.** Вы будзеце захапляцца ўсім, што сустрэнеце на сваім шляху – небам, новымі людзьмі і нават новымі праблемамі. Такі настрой дазволіць смялей рухацца наперад і не адступаць перад цяжкасцямі.


**Блізняты.** У вас час ад часу ўзнікаюць праблемы са страўнікам. Каб дапамагчы свайму здароўю, пастарайцеся весці актыўны лад жыцця, больш рухайцеся, знаходзьце крыніцы прыемных эмоцый.


**Рак.** Сустрэча з людзьмі, чый талент і ўнікальнасць выклічуць ваша захапленне, узбагаціць вас новымі ідэямі.


**Леў.** За месяц да вашага дня нараджэння зоркі “згушчаюць над вамі хмары”. Клапаціцеся пра сваё здароўе, неператамляйцеся.


**Дзева.** Нават калі вам сумна, не нясіце гэты настрой у масы. Добрасумленна дапамажыце іншым, і ў адказ атрымаеце вялікае маральнае задавальненне.


**Шалі.** Перыяд асаблівы. Паспрабуйце зрабіць нейкую справу бескарысліва. Гэта будзе ўклад у ваша самаразвіццё.


**Скарпіён.** Тыдзень “буры ў шклянцы вады”. Вас, “бунтароў”, зачыніць бы ў пакоі, каб плялі кошычкі для кветак. Займіцеся чымсьці цікавым для сябе.


**Стралец.** Старайцеся жыць сённяшнім днём і не вельмі моцна трывожыцца адносна сваёй будучыні.


**Казярог.** Не варта хвалявацца, калі ў вашай пары будуць адбывацца нейкія рознагалоссі. Памятайце, што вы не можаце быць абсалютна аднолькавымі і пастаянна знаходзіцца на адной хвалі, вы ж два розныя чалавекі.


**Вадалей.** “Любовь нечаянно нагрянет, когда ее совсем не ждешь” – радкі з гэтай песні могуць паслужыць ілюстрацыяй да рамантычных знаёмстваў. Сустрэча адарве вас ад рэальнасці, вымусіць забыць пра справы і людзей. Цяжка сказаць, чым усё закончыцца, але ў любым выпадку знаёмства прыкметна паўплывае на ваша жыццё.


**Рыбы.** Лавіце кожнае імгненне, якое дорыць вам жыццё! Галоўнае, адчувайце сябе шчаслівымі!

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

9 771991 715006

**Камент-эксперт**

**Rh.by**

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27



## НАДВОР'Е

**16 жніўня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +19 / +21 | | +15 / +21 | | +16 / +19 | | +13 / +20 | |
| | 737 | → 2 | 736 | → 2 | 736 | ↘ 3 | 738 | ↗ 3 |
| Вільня | +15 / +21 | | +13 / +20 | | +13 / +19 | | +11 / +18 | |
| | 744 | → 5 | 744 | → 5 | 744 | → 7 | 744 | ↑ 8 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 5.52
Захад 20.41
Даўжыня дня 14.49

Усход 23.03
Захад 13.24
Квадра 3




### ПРЫКМЕТЫ

- У дзень Антона-віхравея (16 жніўня) чакалі моцных вятроў, якія абяцаюць снежную зіму.
- Спас (19 жніўня). "Прыйшоў Спас – і лета ад нас". Буслы рыхтуюцца ў вырай.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці трэба нашым бальніцам платныя палаты?



**Станіслава Садоўская, штампоўшчыца:**

– Думаю, беларусы ўжо дайшлі да такога ўзроўню жыцця, калі могуць пры жаданні забяспечыць сабе вышэйшы ўзровень абслугоўвання. Добра, каб у такой палаце была новая пасцельная бялізна, зручны ложак, тэлевізар.



**Аляксандр Новаш, студэнт:**

– Не, бо людзі ўсе ў нас аднолькавыя, і абслугоўваць таксама трэба аднолькава. Але я чуў, што такія палаты ўжо ёсць. Мне падаецца не важна – платна ці бясплатна, усё роўна ў нас кепска лечаць.



**Маргарыта Кухта, гаспадыня:**

– Трэба. Я была б гатовая заплаціць дадатковыя грошы, каб дактары больш пільна даглядалі і медсёстры адносіліся лепш. Асабліва важна гэта для людзей сталага веку.

**Падрыхтавалі Настасся РОЎДА, Аляксандра ПАРАХНЯ.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Маладзечанка баіцца пускаць сына на дзіцячую горку ў двары, таму што гуляць на ёй небяспечна. Хто адказвае за тэхнічны стан дзіцячых пляцовак, чытайце ў наступным нумары "РГ".**




Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 33 (1007) 15.08.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02385 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 696 . Падпісана ў друк у 10.00 14.08.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.